

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№10 (кастрычнік), 2014

# Мяжа



**Алена Дубаносава выйграла справу ў Лунінецкім судзе**

(старонка 5)

## ЗЬМЕСТ

# Уладзімір Малей: “Праца праваабаронцаў ніколі не была лёгкай”



Беларускія праваабаронцы былі, ёсць і будуць -- хочуць гэтага ўлады ці не, кажа праваабаронца з Брэста Уладзімір Малей.

- Вы ўжо шмат гадоў займаецеся праваабарончай дзейнасцю. Як вы можаце ацаніць стаўленне да праваабаронцаў з боку ўладаў?

- Праца праваабаронцы ніколі не была лёгкай. Былі перыяды асаблівага ціску, улады не згодныя, што мы ёсць, што аказваем людзям бясплатную дапамогу. Аказваўся не толькі ціск на нас, але і распаўсюджвалася розная інфармацыя, якая ганьбіла нашу дзелавую рэпутацыю. Але якія б жорсткія ўмовы для працы ні былі, праваабаронцы дзейнічаюць уБеларусі ёсць ва ўсіх абласцях.

- Ці адчуваеце вы выніковасць вашай працы і дапамогі?

- Апошнім часам усё часцей дапамагаем грамадзянам звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН, калі яны не знаходзяць абароны ў сваёй дзяржаве. Гэта права на асацыяцыю, на мірныя сходы, распаўсюд інфармацыі, справядлівае судовае разбіральніцтва. Канешне, гэта працэдура няхуткая, прыходзіцца доўга чакаць рашэння Камітэту. Напрыклад, брэсцкім вернікам, якія адмовіліся мяняць пашпарты савецкага ўзору на беларускія, якія, па іх перакананнях, утрымліваюць у індыфікацыйным нумары д’ябальскі лік, адказу прыйшлося чакаць 7 гадоў. Нагадаю, што за адмову атрымліваць беларускія пашпарты ім не налічвалі пенсіі, і як жылі людзі, ня якія сродкі гэты час – аднаму Богу вядома. Такіх у Беларусі каля 500 чалавек. Нягледзячы на тое, што ў рэшце рэшт Камітэт прызнаў скаргу вернікаў непрымальнай, кантактаванне з беларускім

урадам дало свой плён: за гэты час Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што патрэбна зрабіць спецыяльныя пасведчанні, па якіх гэтыя грамадзяне змогуць атрымліваць пенасіі. Думаю, што ў гэтай справе ёсць вялікі ўнёсак праваабаронцаў.

- Ці шмат спраў, якія заканчваюцца станоўча?

- У Брэсце выло вырашана пытанне пра ўнясенне зменаў у рашэнне Брэсцкага гарвыканкама аб правядзенні масавых мерапрыемстваў згодна Пастановы Саўміна № 207. Цяпер заяўляльнікам не трэба прадстаўляць дамову з РАУС, як гэта было ранней, а гарвыканкам пасля атрымання заявы сам дамаўляецца з міліцыяй наконт аховы масавага мерапрыемства. Працуем з нашымі калегамі над тым, каб такія змены адбыліся ў Бярозе і Баранавічах.

Разам з тым, ёсць справы, якія фактычна немагчыма выйграць. Напрыклад, датычныя звальнення па заканчэння кантракта, бо згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі № 29 працадаўца можа нават не паясняць прычыны, чаму звольніў. Часта звальняюць высокапрафесійных, сумленных спецыялістаў, як, напрыклад, выкладчыка Брэсцкага дзяржаўнага медычнага каледжа Аляксандра Мельніка пасля ўдзелу ў выбарах.

- Шмат да вас звяртаецца людзей?

- Па 15-20 чалавек у месяц прыходзіць на прыём і столькі ж звяртаецца па тэлефоне. Усім стараемся дапамагчы як можам.

- Нашым грамадзянам хапае настойлівасці і смеласці ісці да канца ў абароне сваіх правоў?

- Бывае па-рознаму. Кантрактная сістэма, якая ставіць у поўную залежнасць работніка ад працадаўцы, не дае магчымасці чалавеку разагнуцца, робіць яго ціхім, памяркоўным. Ідуць да канца тыя, якім ужо няма чаго губляць, ніякай надзеі на паляпшэнне сітуацыі.

http://spring96.org/be/news/73814

## Уладзімір Малей: Праваабаронцы – ёсць і будуць, хоць ўлада гэтага вельмі не хоча

Беларускія праваабаронцы, негледзячы на адмоўнае стаўленне ўладаў, бясплатна дапамагаюць людзям абараняць свае правы.

“Праваабаронцы – ёсць і будуць, хоць ўлада гэтага вельмі не

хоча, яны апошняя надзея і інстанцыя, куды звяртаюцца пакрыўджаныя ўладай людз”і – кажа берасцейскі праваабаронца Уладзімір Малей:

- Самае галоўнае, што, як бы ўлада жорстка з праваабаронцамі не паступала праваабаронцы ў Рэспубліцы Беларусь ёсць, дзейнічаюць ва ўсіх абласцях. Кожны месяц на прыём прыходзяць ад 15 да 25 чалавек і па тэлефоне столькі ж звяртаецца. Ведаюць нас, а мы дапамагаем, чым можам.

Паводле праваабаронцы, з улікам таго факту, што ў Беларусі часта парушаюцца законы, дабівацца станоўчых вынікаў з кожным годам становіцца ўсё цяжэй. Асабліва калі справы тычацца звальнення праз непрацягненне кантракту нават без тлумачэння прычынаў. Працадаўцам развязвае рукі Дэкрэт №29 Аляксандра Лукашэнкі аб кантрактнай сістэме, а правааабаронцы аказваюцца бяссільнымі.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-malej-pravaabarontsy-yosts-i/

## Алена Дубаносава выйграла справу ў Лунінецкім судзе




Алена Дубаносава – жонка актывіста кампаніі “Гавары праўду”, звольненага з працы на “Граніце” за адмову выйсці з незалежнага прафсаюза Леаніда Дубаносава – выйграла справу ў Лунінецкім судзе.

“Справа была супраць прадпрымальніка Аляксея Кацубы, які павінен вярнуць жанчыне незаплачаны заробак, кажа Леанід Дубаносаў:

- Наймальнік Куцуба паказаў, што ён сваім супрацоўнікам хоча плаціць заробак, а хоча – не плаціць. Недобрасумленны наймальнік,

каб не плаціць заробак, можа абвясціць, што ёсць недастача. А работнік не ведае сваіх правоў і проста маўчыць і працуе за капейкі. Наймальнік не мае права не плаціць заробак! А прадаўцам хацеў бы падказаць, каб звярталіся ў незалежны прафсаюзу РЭП, там падкажуць іх правы, і яны будуць больш абароненыя.

Паводле актывіста кампаніі «Гавары праўду» Валянціна Лазарэнкава, Алена пацярпела з-за выбараў, у якіх прымаў удзел яе муж.

Адразу пасля выбараў жанчыне не выплацілі заробак, а прадпрымальнік Кацуба звярнуўся ў міліцыю з заявай, нібыта Алена падманвала пакупнікоў, была распачата крымінальная справа. Жанчыну на тры дні змясцілі ў следчы ізалятар, а пазней справу закрылі.

http://www.racyja.com/hramadstva/alena-dubanosava-vyjgrala-spravu-u-mi/

## Суд Бярозаўскага раёна нязменна стаіць на баку выканкама ў справе забароны масавых мерапрыемстваў




Праваабаронцы Сяржук Русецкі, Тамара Шчапёткіна і грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч прасілі прызнаць незаконнай адмову ў правядзенні пікета 25 жніўня, прымеркаванага да гадавіны канстытуцыйнага зацверджання закону аб незалежнасці Беларусі.

Райвыканкам адмовіў па дзвюх прычынах : адсутнасць

копіі дамовы з міліцыяй і тое, што на месцы пікета (цэнтральным стадыёне)будзе адбывацца іншае мерапрыемства з наяўнасцю гледачоў.

Разам з тым, з заявай на пікет праваабаронцы падавалі адказ з міліцыі, што згодна з пастановай Савета міністраў № 207 ад 2012 г. райвыканкам сам павінен звяртацца да іх па гэтым пытанні. У сваёй жа адмове райвыканкам спаслаўся на сваё рашэнне аб парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў, у якім вызначаецца іншы парадак: разам з заявай павінна быць пададзена дамова з міліцыяй.

На судзе праваабаронцы спасларіся на арт. 58 Закона “Пра нарматыўна-прававыя акты РБ”, дзе сказана, што рашэнні або пастановы ніжэйшых інстанцый павінны быць зменены суадносна законаў або пастаноў вышэйшых або яны прызнаюцца страціўшымі юрыдычную сілу.

Праваабаронцам прыйшлося патраціць год, звяртаючыся да самога райвыканкама і розных вышэйшых інстанцый, каб дамагчыся ад райвыканкама ў верасні 2014 года, каб рашэнне выканкаму было зменена згодна Пастановы, і яно зараз знаходзіцца ў аблвыканкаме на юрыдычнай экспертызе. Пры гэтым рашэнне райвыканкама павінна было быць зменена яшчэ ў 2012 годзе без усялякай бюракратычнай валакіты.

Памочнік пракурора Аксана Гардзіенкана паседжанні суда, калі былі агучаны адказы з Брэсцкага аблвыканкама, што райвыканкаму дадзена даручэнне змяніць рашэнне згодна Пастановы, аналагічныя рашэнні Брэсцкага ўпраўлення ўнутраных спраў, Савета міністраў у сваім выступе ўсё ж прапанавала скаргу праваабаронцаў пакінуць без задавальнення.

Не звярнула Гардзіенка ўвагі і на падман з боку райвыканкама аб занятасці месца пікету іншым мерапрыемствам, хаця праваабаронцы прыклалі да справы здымкі пустога стадыёна, на трыбунах якога не было ніводнага гледача.

Суддзя Наталля Вакульчык у сваім рашэнні, нягледзячы ні на што, прыняла бок райвыканкама і прадстаўніка пракуратуры.

Правабаронцы намераны абскарджваць рашэнне суда Бярозаўскага раёна ў вышэйстаячых інстанцыях, а пры неабходнасці – звяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

http://spring96.org/be/news/73683

## Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты заклікалі да мараторыя на смяротнае пакаранне

У Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты падпісалі паштоўкі на адрас прэзідэнта краіны, у якіх указваецца, што “смяротнае пакаранне парушае права на жыццё, абвешчанае ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэта надзвычай жорсткае бесчалавечнае і зневажальнае пакаранне.”

Адна з падпісантак паштоўкі Таццяна Тарасевіч адзначыла, што смяротнае пакаранне супярэчыць хрысціянскім традыцыям. Толькі Бог можа распараджацца жыццём чалавека.

Усе падпісанты адзінагалосна пагадзіліся, што з часам Беларусь усё роўна прыйдзе да адмены смяротнага пакарання: зменіцца час, зменяцца абставіны, зменяцца самі людзі. І адбудзецца гэта дзякуючы агульным намаганням грамадства.

http://spring96.org/be/news/73623

## Брэст: толькі адзін дэпутат зрабіў справаздачу перад выбаршчыкамі

Удзельнікі грамадзянскай ініцыятывы “Сацыяльны офіс” лічаць пазітыўным момантам, што пасля папярэдніх зваротаў, адзін з дэпутатаў зрабіў справаздачу праз газету “Брэсцкі веснік”, заснавальнікам якой з’яўляецца мясцовы гарвыканкам.

“Вельмі добра, што дэпутат па выбарчай акрузе №34 Аляксандр Шокаў зрабіў справаздачу аб сваёй дзейнасці перад выбаршчыкамі, аднак было б добра, каб гэтак жа зрабілі ўсе – у Брэсцкім гарсавеце амаль 40 народных абраннікаў”, - адзначыў прадстаўнік “Сацыяльнага офіса” Юрый Жыдовіч. Грамадскі актывіст нагадаў, што пасля абрання дэпутатаў гарсавета новага склікання ім былі накіраваны лісты, у якіх былі пазначаны непасрэдныя абавязкі. У прыватнасці, узгадвалася, што дэпутат мусіць прадстаўляць інфармацыю за перыяд выканання ім сваіх паўнамоцтваў, праводзіць прыём грамадзян, сустрэчы з выбаршчыкамі і перыядычна публікаваць справаздачы ў прэсе.

Паводле слоў Юрыя Жыдовіча, у бліжэйшы час будзе складзены

новы зварот да ўсіх дэпутатаў Брэсцкага гарсавета з просьбай даць справаздачу аб сваёй дзейнасці ў першым паўгоддзі пасля абрання. “Таксама мы спадзяемся, што старшыня гарадскога Савета дэпутатаў прыслухаецца да нашай прапановы і возьме прыклад з гродзенскіх калег, размясціўшы на сайце Брэсцкага гарвыканкама інфармацыю аб тым, дзе і ў які час дэпутат можа прыняць выбаршчыка”, - адзначыў Жыдовіч.

http://spring96.org/be/news/73589

## Брэст: актывісты незалежнага прафсаюза нагадалі пра правы працоўных

Сябры прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) выйшлі на вуліцы ў цэнтры Брэста і раздалі мінакам некалькі соцен улётак. Як паведаміла намеснік кіраўніка рэспубліканскай арганізацыі прафсаюза РЭП Зінаіда Міхнюк, акцыя была прымеркаваная да Міжнароднага дня за годную працу і ставіла на мэце пашырыць кола людзей, якія змагаюцца за свае правы.

“Наш прафсаюз даўно ўжо заклікае адмовіцца ад прымусовай кантрактнай сістэмы і зараз просіць людзей падтрымаць патрабаванні незалежнага прафсаюзнага руху, - паведаміла Зінаіда Міхнюк. – У прыватнасці, мы прапануем унесці змены ў два артыкулы (38 і 198) Працоўнага кодэкса РБ, каб не парушаліся правы працоўных, і кожны чалавек у XXI стагоддзі не адчуваў сябе на працоўным месцы рабом. Таксама патрабуем, каб наймальнік, у выніку скасавання кантракту, абавязкова тлумачыў працоўнаму прычыны такога рашэння”.

Акрамя неабходнасці адмены кантрактнай сістэмы актывісты прафсаюза РЭП інфармавалі жыхароў Брэста пра тое, што ў Беларусі варта рэфармаваць сістэму аплаты працы і выносіць на шырокае абмеркаванне пытанне пра скарачэнне працоўнага часу з захаваннем цяперашняга ўзроўню заробкаў.

http://spring96.org/be/news/73564

## Берасцейцам нагадалі пра іх працоўныя правы

На цэнтральных вуліцах Берасця прадстаўнікі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці раздалі некалькі соцен улётак да Міжнароднага дня за годную працу. Намеснік кіраўніка

рэспубліканскай прафсаюзнай арганізацыі Зінаіда Міхнюк адзначае, што важна такім чынам пашыраць кола людзей, якія змагаюцца за свае правы:

- Папрасілі людзей працы падтрымаць нас у нашых патрабаваннях. Наш прафсаюз даўно выступае за адмену прымусовай кантрактнай сістэмы. І тут мы канкрэтна прапаноўваем унесці змены ў артыкул 38-ы і 198-ы Працоўнага кодэкса. Каб не парушаліся правы працоўных, каб чалавек у 21 стагоддзі не быў завуаляваным рабом.

Ва ўлётках былі пазначаныя кантакты прадстаўніцтва прафсаюза РЭП у рэгіёнах і абласных цэнтрах Беларусі, па якіх грамадзяне змогуць далучыцца да аб’яднання працоўных.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejtsam-nagadali-pra-ikh-pratsouny/

## У Бярозе судовыя выканаўцы спрыяюць махлярам

Выкананне судовых рашэнняў на Берасцейшчыне мае праблемы, калі гэта не тычыцца дзяржаўных інтарэсаў, кажа прадпрымальнік, інвалід 2 групы з Белаазёрска Ігар Леўчанка. Ён паўгады не можа дабіцца выканання рашэння эканамічнага суда Берасця.

Судовы выканаўца Марына Фесько за гэты час ні разу не сустрэлася з дырэктарам Бярозаўскай фірмы: “Заходні горад” Вадзімам Гулевічам для спагнання з апошняга пазыкі ў 50 000 000 рублёў і вяртання арэндуемай тэхнікі.

Гэта ўсё прадпрымальнік Леўчанка павінен аддаць у арганізацыю “Бярозабуд”:

- Як можна патлумачыць такі адказ: я што – павінна паехаць з Берасця ў Бярозу, шукаць дырэктара гэтай фірмы? Між тым фірма “Заходні горад” не сплаціла ні капейкі тым, каму вінна.

Актывіст кампаніі “Гавары праўду” і сябра Беларускага Хельсінскага камітэта Валянцін Лазарэнкаў лічыць, што дзяржава ў сваім бяздзеянні спрыяе махлярству, да прыкладу, што ўчыніў Вадзім Гулевіч:

- Можа нехта на тэрыторыі горада Бяроза займаецца махлярствам, і дзяржава спрыяе яму. Столькі структураў не могуць знайсці гэтага мазляра – вось тут?

Сёння стала вядома, што на скаргі ў розныя інстанцыі аб бяздзейнасці судовых выканаўцаў, прыйшоў адказ, што Гулевічу пагражае крымінальная справа.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-sudovyya-vykanautsy-spryyayuts-m/

## Уладзімір Арлоў: Мова абараняе межы краіны мацней за армію



Аляксандр Лукашэнка распавядае пра “класныя творы” Васіля Быкава, а таксама выказваецца за павелічэнне колькасці гадзін на выкладанне беларускай мовы у агульнаадукацыйных школах. Аб тым, што азначае такі паварот улады ў бок беларускамоўнасці, распавядае пісьменнік Уладзімір АРЛОЎ.

«Васіль Быкаў не быў маім прыхільнікам, але ў яго ёсць класныя творы — тое, што мы і нашы дзеці павінны ведаць, – заявіў Лукашэнка напрыканцы мінулага тыдня. – Але ёсць некаторыя [аўтары, уключаныя ў школьную праграму], якія толькі прозвішча беларускае носяць, а чытаць няма чаго».

Крыху раней афіцыйны лідар зрабіў яшчэ адну заяву: “Добра, мы ўсе размаўляем па-руску. Па-беларуску, скажу шчыра, дома і ў побыце мы размаўляем менш. Тады, магчыма, неабходна ў школе даць яшчэ адну гадзіну на карысць беларускай мовы замест англійскай?”

**Уладзімір Арлоў**: Ёсць такое выслоўе: “Мова абараняе межы краіны мацней за армію”. Мне бачыцца не выпадковым тое, што ўсе апошнія заявы афіцыйнага лідара ў падтрымку беларускай мовы і культуры прагучалі ўжо ў новай геапалітычнай сітуацыі, якая ўзнікла ў

сувязі з падзеямі ва Украіне. Гэта сведчыць пра разуменне расейскай пагрозы. Што ж датычыцца пра дадатковую гадзіну ў школах на вывучэнне мовы, то я, па-першае, зусім не ўпэўнены, што гэтая гадзіна ў школьнай праграме з’явіцца. А, калі і з’явіцца, то яна нічога не вырашыць.

**РР**: Чаму так песімістычна?

**Уладзімір Арлоў**: Як літаратар, які нярэдка сустракаецца, нягледзячы на ўсе чорныя спісы, з вучнямі, магу сказаць, што сёння і ў гарадскіх, і ў вясковых школах, асабліва вучні малодшых класаў, ужо ўспрымаюць беларускую мову як замежную. І па сутнасці нават не разумеюць таго, што ім спрабуе расказаць пісьменнік. Я думаю, тыя калегі, якія таксама сустракаюцца з дзецьмі, могуць гэта толькі пацвердзіць. Вось да чаго давяла палітыка ўлады ў галіне школьнай адукацыі! І таму лічу, што, калі сапраўды клапаціцца пра захаванне і развіццё беларускай мовы (як мовы тытульнай нацыі, якая стварыла гэтую дзяржаву), то трэба дадаваць не адну і не дзве гадзіны, а зрабіць канкрэтныя крокі па стварэнні беларускамоўнай сістэмы адукацыі: ад дзіцячага садка да ВНУ. Вось калі б Лукашэнка заявіў пра неабходнасць нарэшце стварыць у дзяржаве беларускамоўны нацыянальны ўніверсітэт, пра што мы гаворым усе гады незалежнасці, то гэта б прагучала сапраўды важка. А што да адной гадзіны… Я б прапанаваў, каб гэтую гадзіну вызначылі для вывучэння мовы чыноўнікамі усіх рангаў. Каб яны хаця б займаліся мовай па гадзіне на тыдзень, а затым здалі б экзамен на яе валоданне. Вось гэта былі б сапраўдныя захады па абароне беларускай мовы і забеспячэнню раўнапраўя другой дзяржаўнай мовы, правы якой штодзень парушаюцца.

http://www.racyja.com/palityka/uladzimir-arlou-mova-abaranyae-mezhy-kr/

## На Берасцейшчыне абмеркавалі праблему гандлю людзьмі

Круглы стол на тэму супрацьдзеяння гандлю людзьмі адбыўся ў горадзе Бяроза Берасцейскай вобласці. Яго арганізатарамі выступілі прадстаўнікі грамадскай арганізацыі “Клуб дзелавых жанчын”. Сустрэча прайшла ў рамках праекту “Умацаванне нацыянальнага

механізму перанакіравання ахвяраў гандлю людзьмі па Берасцейскай вобласці”.

Спецыяліст аб’яднання, адная з арганізатараў мерапрыемства Наталля Здольнік распавяла пра актуальнасць правядзення такой сустрэчы ў рэгіёне:

- Мэта гэтага мерапрыемства – наладзіць узаемадзеянне паміж прадстаўнікамі сельскіх выканкамаў, райвыканкамаў, сельскіх пасялковых саветаў для таго, каб людзі больш даведаліся пра праблему гандлю людзьмі, пра шляхі яе вырашэння і пра тую дапамогу, якую можа аказаць “Клуб дзелавых жанчын” тым, хто пацярпеў ад гандлю людзьмі.

Круглыя сталы на тэму гандлю людзьмі ўжо адбыліся у Камянцы, Жабінцы, Пружанах, Маларыце і ў Берасці.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastsejshchyne-abmerkavali-prable/

## Перамога праваабаронцаў з Бярозы



Амаль праз год бярозаўскім праваабаронцам удалося пераканаць юрыдычны аддзел райвыканкама змяніць рашэнне аб масавых мерапрыемствах у частцы дамовы з міліцыяй.

Адсутнасць дамовы разам з падачай заявы на масавае мерапрыемства да апошняга часу была прычынай забароны мепрапрыемства.

Згодна з пастановай Савета міністраў № 207 райвыканкам павінен сам узгадняць пытанне з міліцыяй наконт аховы парадку падчас масавых мерапрыемстваў, кажа праваабаронца Сяржук Русецкі:

- На адным з судоў нам заяўлялі: у Пастанове Савета міністраў не ўказана, што рашэнне выканкаму павінна быць зменена, ў

адпаведнасці з пастановай. Таму: пастанова сама па сабе, а рашэнне само па сабе. Але звароты ў Міністэрства юстыцыі, і ў аблвыканкам, і ў Савет міністраў падштурхнулі юрыдычны аддзел змяніць свой пункт гледжання.

Праўда, у праваабаронцаў эйфарыі наконт таго, што зараз адчыніцца магчымасць праводзіць масавыя мерапрыемствы няма. Улада забараняе на пустым месцы і пры гэтым ведае, што суд гэтую забарону апраўдае.

http://www.racyja.com/hramadstva/peramoga-pravaabarontsau-z-byarozy/

## Бярозаўскія праваабаронцы дамагліся змены рашэння райвыканкама аб масавых мерапрыемствах у частцы дамовы з міліцыяй

Спатрэбіўся без малога год, каб юрыдычны аддзел райвыканкама ў асобе юрыста Яўгена Кашталяна змяніў рашэнне райвыканкама аб правядзенні масавых мерапрыемстваў згодна з Пастановай Саўміна № 207. Па рашэнні райвыканкама копію дамовы з міліцыяй на абслугоўванне масавага мерапрыемства заяўнікі павінны былі падаваць адначасова з заявай. А згодна з Пастановай пасля падачы заявы ў райвыканкам адтуль павінны звярнуцца ў міліцыю на працягу дня для ўзгаднення пытанняў па ахове мерапрыемства.

Пастанова Саўміна з’явілася на пачатку 2012 года, але яшчэ ў 2013 годзе падчас суда юрыст райвыканкаму Яўген Кашталян казаў, што мяняць рашэння яны не будуць, “паколькі з Саўміна ім пра гэта не сказалі.” Праваабаронцам прыйшлося звяртацца ў Брэсцкі аблвыканкам, які першапачаткова падтрымаў пазіцыю райвыканкама, у абласное ўпраўленне ўнутраных спраў, у Мінюст і Савет Міністраў. І вось нарэшце пасля скаргі ў Саўмін справа дайшла да свайго лагічнага завяршэння. На пачатку кастрычніка праваабаронцы атрымалі ліст з райвыканкама за подпісам намесніка старшыні Яўгена Тарасюка, што рашэнне зменена згодна пастановы Саўміна № 207.

Аднак эйфарыі праваабаронцы не маюць. Знікненне адной з перашкодаў для дазволу не значыць, што будзе дадзены зялёнае

святло для правядзення масавых мерапрыемстаў, і нават самая абсурдная адмова райвыканкама, як паказвае практыка, будзе падтрымана судом.

http://spring96.org/be/news/73475

## Супрацоўнік міліцыі непаўнагадовай: “Ты вінаватая, раз патрабуеш адваката”

Супрацоўнік Маскоўскага РАУС Брэста Яўген Буры прымяніў у сваёй працы недапусцімыя дзеянні. Пра гэта паведаміла ў сваёй скарзе ў Генеральную пракуратуру маці 12-гадовай дзяўчынкі з Брэста А.І.

Першы раз ён прыходзіў дадому, дзе сказаў старэйшай сястры, што хоча пагутарыць з “падазраванай, на якую заведзена крымінальная справа”, адзін на адзін. Калі яна не прызнаецца ў крадзяжы мабільнага тэлефона ў непаўнагадовай знаёмай дзяўчынкі або ў тым, што яна яго знайшла, то ён яе “зганьбіць на ўсю школу”. Што і зрабіў. Ён прыйшоў у школу, калі дзяўчынка была на ўроку і, пагутарыўшы з настаўніцай, забраў яе ў асобны кабінет, дзе ў прысутнасці іншага педагога ўчыніў допыт. Настаўніца не абараніла вучаніцу ад незаконных дзеянняў міліцыянера. Праваахоўнік не дазволіў дзяўчынцы пазваніць сваім блізкім або адвакату, з якім яе маці заключыла дамову, і дзіця мела візітоўку. Міліцыянер проста заявіў, што яму “цяпер усё зразумела. Ты вінаватая, раз патрабуеш адваката”. Дома дзяўчынцы стала дрэнна, яна страціла прытомнасць, прыйшлося выклікаць хуткую.

Маці дзяўчынкі ўпэўнена, што супрацоўнік міліцыі перавысіў свае паўнамоцтвы і ў сваёй скарзе патрабуе ўзбудзіць крымінальную справу у адносінах да супрацоўніка міліцыі па ч. 3 арт 426 КК (перавышэнне ўлады). А таксама просіць паставіць на від начальніку Маскоўскага РАУС пра недапушчальнасць у будучым у дачыненні да непаўнагадовых падобных дзеянняў з боку супрацоўнікаў РАУС.

Праваабаронца Раман Кісляк лічыць такія дзеянні супрацоўнікам крымінальнага вышуку недапушчальнымі. Навідавоку парушэнне правоў непаўнагадовай і гарантый абароны . Патрэбна правесці грунтоўнае расследаванне, каб у будучым падобныя факты не паўтараліся, лічыць Раман Кісляк.

http://spring96.org/be/news/73424

## Брэст: больш чым праз тры месяцы прадстаўнікі кампаніі “О, Балонь!” нарэшце атрымалі адказ з Міністэрства адукацыі

З яго вынікае, што рашэнне наконт далучэння Беларусі да Балонскага працэсу прынята і больш амяркоўвацца не будзе. Але ў чым сутнасць рашэння, з адказу засталося невядомым: чыноўнікі з міністэрства раяць звяртацца па гэтым пытанні да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Адзін з каардынатараў кампаніі “О, Балонь!” Уладзімір Красько лічыць адказ, які быў дасланы праз электронную пошту, фармальным. “Нам далі зразумець, што Міністэрства адукацыі не будзе больш рабіць ніякіх захадаў, якія тычацца і пытанняў студэнцкага самакіравання, і далучэння Беларусі да Балонскага працэсу, - кажа Красько. – А парада гучыць наступным чынам: звяртайцеся да свайго дэпутата ў Палаце прадстаўнікоў, каб ён выступіў з ініцыятывай разгледзець гэтае пытанне ў парламенце”.

Нагадаем, што актывісты кампаніі “О, Балонь!” накіравалі ў Міністэрства адукацыі амаль тысячу подпісаў пад адпаведным зваротам яшчэ напачатку ліпеня. У гэтым звароце брэсцкія студэнты і неабыякавыя маладыя людзі заклікалі беларускія ўлады спрыяць уступленню нашай краіны ў Балонскі працэс. Сярод патрабаванняў таксама ўзгадваліся магчымасць абіраць рэктара калегіяльным шляхам і непасрэдны ўдзел студэнтаў у кіраванні сваёй навучальнай установай. Агучаныя змены ў сістэме вышэйшай адукацыі з'яўляюцца ўмовамі для далучэння Беларусі ў 2015 годзе да Балонскага працэсу.

Пасля таго, як зварот быў накіраваны ў Міністэрства адукацыі, з’явіліся звесткі, што на студэнтаў, якія паставілі свае подпісы, пачаўся ціск з боку адміністрацыі вышэйшых навучальных устаноў Брэста.

http://spring96.org/be/news/73527

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»